**БЮЛЕТЭНЬ**

Рэспубліканскага Камітэту Прафэсыянальнага Саюзу Рабочых Жывёлагадоўчых саўгасаў Б. С. С. Р.

г. Менск, Пляц Волі
Дом Працы
Тэлефон.
Старшыні ЦП № 4-08.
Арг. сектар. № 4-08.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ДВА ТЫДНІ

№ 5 | 20-га верасьня 1931 году | № 5

## ЗЬМЕСТ



# ПАСТАНОВА

### Прэзыдыуму Рэспубліканскага камітэту саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў.

*Аб рэалізацыі пастаноў 2-га Усебеларускага Зьезду рабселькораў па жывёлагадоўлі.*

Другі Усебеларускі зьезд рабселькораў паставіў рад канкрэтных задач перад саўгасным друкам ў галіне аўладаньня тэхнікай сацыялістычнай жывёлагадоўлі, у выкананьні прамфінпляну саўгаснага будаўніцтва „1931-32 гады павінны быць гадамі такога-же рашучага пералому ў галіне разгортваньня жывёлагадоўлі, якімі былі 1929-30 гады ў справе арганізацыі сацыялістычнай збожжавай гаспадаркі.“ (за адозвы ЦК Усе КП(б) і СНК СССР).

Баявая задача нізавога друку і рабкораў саўгасу давясьці пастановы другога рабселькораўскага зьезду да кожнага рабкора, да кожнага ударніка і рабочага.

Барацьба за выкананьне промфінпляну, за стварэньне моцнай кармавой базы ставіць перад рабкорамі і нізавым саўгасным друкам, як памоцнікамі партыі рад практычных задач.

Ў прыватнасьці па пляну на 1931 год у саўгасах Белсаўгастрэсту павінна быць пастаўлена 38.625 кароў, 125.819 маладняка, павінна быць здана таварнай прадукцыі: малака-145859 цэнтнераў, масла-2.873 цэнтнераў, сыру-2.931 цэнт., мяса—2.357 цэнтнераў, творагу—1330 цэнтнераў і г. д.

Па саўгасам сьвінаводтрэсту па пляну на 1931 год павінна быць пагалоўя: сьвіней—219. тысяч, з іх сьвінаматак —41.030, хракоў—1350, парасят—32.354 штукі. Таварнай прадукцыі павінна быць здана 40900 галоў—40.900 цэнтнераў.

Рабселькоры праз друк і сваім уласным прыкладам павінны змагацца за поўнае выкананьне і перавыкананьне промфінпляну жывёлагадоўчых саўгасаў, за стварэньне моцнай кармавой базы, своечасовая убока сена, два укосы, выкананьне пляну сіласаваньня, ужываньне гальлёвага корму, скарыстаньне вотраны, мякіны і іншых адкідаў за зьмену саломы, якая ідзе на падсьцілкі торфам, апілкамі, за поўнае ірацыянальнае скарыстаньне кармоў.

Нізавы друк і рабселькоры павінны быць арганізатарамі мас пад кіраў

ніцтвам партыйных і прафсаюзных арганізацый у барацьбе за уладаньне тэхнікай, за пашырэньне рацыяналізацыі і вынаходніцтва, у барацьбе за падрыхтоўку і перападрыхтоўку кадраў для соцыялістычнай—жывёлагадоўлі, ў барацьбе за унядрэньне зьдзельшчыны і гаспадарчага разрахунку.

Ў мэтах хутчэйшай рэалізацыі пастаноў другога Усебеларускага зьезду рабселькораў Прэзыдыум Рэспубліканскага камітэту саюза рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў пастанаўляе:

1. Рабачкомам, мясцкомам, прафкомам і рэдкалегіям насьценных газэт зараз-жа прапрацаваць пастанову другога Усебеларускага зьезду рабселькора і давесьці яе да кожнага рабкора, ударніка і рабочага.

2. На аснове рашэньня зьезду рабселькораў нізавому саўгаснаму друку перабудаваць сваю работу у адпаведнасьці з палітычна—гаспадарчымі задачамі саўгасаў. Ударная брыгада у шматціражках і насьценых газэтах ў рабкораўскім руху павінна стаць вядучым зьвяном. Шматціражкі і насьценыя газэты арганізоўваюць рэйды ударных брыгад з лепшых рабкораў для праверкі ходу выкананьня прамфінпляну па саўгасам і па асобным галінам гаспадаркі.

Вынікі рэйду рабкораўскай брыгады павінны быць шырока абгавораны на пасяджаньні рабачкомаў і зьлётах ударнікаў.

Шматціражкі і насьценгазэты павінны практыкаваць такія формы паказу лепшага вопыту, як чырвоныя дошкі, чырвоныя сьпісы і г. д., а для прогульшчыкаў, лодараў і пьяніц павінна быць адведзены мейсца на чорнай дошцы. Для адстаючых, у газэце павінен быць адведзен куток грамадзкага буксіра.

3. Адзначаючы, што рабкораўскія пасты цалкам сябе апраўдалі, Прэзыдыум прапануе рэдакцыі „Сельгасрабочы“ і ў далейшым практыкаваць такую форму работы з рабкорамі, дабіваючыся на час важнейшых гаспадарчых палітычных кампаній, арганізацый рабкораўскіх скразных, буксірных брыгад і сыгнальных пастоў у ва ўсіх саўгасах.

4. Адабраючы ініцыятыву газэты „Сельгасрабочы Беларусі“ ў выданьні макетаў штодзённых апэрацыйных насьценгазэт „Ударнік сьвінагадоўлі“ і „Ударнік жывёлагадоўлі“. Прэзыдыум прапануе рабачкому і рэдкалегіі саўгасных газэт забясьпечыць штодзённы выпуск газэт па саўгасу і па вучасткам.

5. Ў мэтах найбольшай какрэтызацыі і спэцыялізацыі нізавога друку і рабкораў саўгасаў, культсэктару разам з рэдакцыяй „Сельгасрабочы Беларусі“ з 25—га верасьня па 25—га кастрычніка правесьці куставыя зьлёты рабкораў вядучых прафэсій і пэўных галін працы (сьвінары, даяркі, трактарысты і г. д.) шырока працягнуўшы на гэтыя зьлёты спэцыялістаў, ударнікаў і рабочых.

На зьлётах распрацаваць у сувязі з адозвай ЦК Усе КПБ(б) і СНК рад канкрэтных пытаньняў, як—та: тэхніка дагляду за жывёлай, асабліва з маладняком, даеньне, кармленьне, пасьцьба і г. д.

На зьлётах паставіць справаздачы лепшых насьценгазэт для абмену вопытам барацьбы за сацыялістычны жывёлагадоўлі.

6. Культсэктару разам з рэдакцыяй „Сельгасрабочы Беларусі“ у пяцідзённы тэрмін скласьці плян правядзеньня зьлёту рабкораў, як па сьвінаводчым, так і па жывёлагадоўчым саўгасам.

7. Рэдакцыі „Сельгасрабочы Беларусі“ наладзіць сыстэматычны агляд нізавога друку, як ён канкрэтна змагаецца за рэалізацыю адозвы ЦК Усе КП(б)Б і СНК СССР аб разгортваньні сацыялістычнай жывёлагадоўлі.

## ПАСТАНОВА

**Рэспубліканскага Камітэту Саюзу Рабочых Жывёлагадоўчых Саўгасаў аб ходзе рэалізацыі адозвы ЦК УсеКП і СНК СССР аб разгортваньні сацыялістычнай жывёлагадоўлі**

*Ад 19/VIII-1931 г.*

Заслухаўшы даклады рабачкомаў: 1) Лескавічы, 2) Калініна, 3) Варашылава, 4) Прылукі, 5) Крычаў, 6) Серпепутава, 7) Чырвоны Бераг, 8) Веснава, 9) Гарчэўшчына, 10) Дашкоўка, 11) Межава, 12) Каралёва, 13) Стрэлічава, 14) Барысаўшчына, 15) Доўжа, 16) Вішнёўка, 17) Камаровічы, Прэзыдыум адзначае:

Што за выключэньнем рабачкомаў саўгасаў; Гарчэўшчына, Стрэлічава і Барысаўшчына адозва ЦК УсеКП і СНК СССР не прапрацована і не вызначаны канкрэтныя мерапрыёмствы да поўнай і хуткай рэалізацыі яе.

Прэзыдыум Рэспублікнскага Камітэту саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў **пастанаўляе:**

За недаацэнку палітычнай важнасьці адозвы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР аб разьвіцьці сацыьлістычнай жывёлагадоўлі, за праяўленьне хвасьцізма у рэалізацыі гэтай адозвы і не уменьне вазглаўляць ініцыатыву рабочых мас, што выразілася у праяўленьні правага апартунізму на практыцы, старшынь рабачкомаў саўгасаў: „Прылукі" тав. Варапаева, і „Крычаў" тав. Круглікаву зьняць з работы. Прасіць Крычаўскі РК КП(б)Б аб вылучэньні ў лік „30" замест тав. Круглікавай, якая не жадае працаваць другую кандыдатуру.

Для правядзеньня выбараў камандыраваць у саўгас Прылукі тав. Карнейчыка і у Крычаў тав. Мацюшко.

Старшыням рабачкомаў саўгасаў „Лескавічы" тав. Сяменаву, „Сержпутово" тав. Франку, „Дошкаўка" тав. Ягудзіну—абвясьціць вымову. Старшыням рабачкомаў саўгасаў: „Варашылава" тав. Капшукову, „Чырвоны Бераг" тав. Новікаву, „Каралёва" тав. Маскалёву, „Камаровічы" тав, Сулімскаму і „Вішнёўка" тав. Крэпецу — паставіць на від.

Прапанаваць усім рабачкомам зараз-жа прыступіць да рэалізацыі адозвы ЦК УсеКП і СНК СССР шляхам прыцягненьня усіх рабочых і спецыялістых саўгасаў да поўнага і хуткага выкананьня пастаноў Партыі і Ураду аб разгортваньні сацыялістычнай жывёлагадоўлі праз скліканьне зьлетаў ударнікаў, агульных, цэхавых і вучастковых сходаў, намячаючы практычныя мерапрыёмствы забясьпечваючыя выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну па колькасным і якасным паказчыкам.

2) Рабачкомам забясьпечыць правядзеньне штодзёнай практычнай работы з вядучымі прафэсіямі (сьвінарнікі даяркі, трактарысты) шляхам скліканьня вытворчых нарад, зьлетаў ударнікаў, абмена лепшым вопытам пастаноўкі работы на вытворчасьці.

3) Абавязаць усе рабачкомы безадкладна выканаць пастанову Прэзыдыуму Рэсп. К—ту ад 9/VIII—31 г. аб практычных мерапрыёмствах па разгортваньні сацыялістычнай жывёлагадоўлі, вызначыць адказных асоб па кожнай галіне вытворчасьці і паасабным галінам прамфінпляну (па здачы таварнай прадукцыі, па укамплектаваньню стада, па забясьпячэньню кармамі і г. д.) арганізуючы штодзёны рабочы кантроль праверкі выкананьня гэтымі таварышамі сваіх абавязкаў.

4) Для забясьпячэньня саўгасаў рабочай сілай і будаўнічымі рабочымі правесьці вербоўку. Сталінскага прызыву калгасьнікаў у прамысловасьць, арганізаваць практычную дапамогу калгасам у справе арганізацыі Труда і лішкі рабочай сілы калгасаў вярбаваць для работ у саўгасах.

## ПАСТАНОВА

### Прэзыдыуму Рэспубліканскага Камітэту Саюзу Рабочых Жывёлагадоўчых Саўгасаў аб правядзеньні санітарнага мінімуму ў саўгасах.

*Ад 19/VIII-31 г.*

Адным з важнейшых умоў паляпшэньня быта рабочых зьяўляецца паляпшэньне культурнага санітарнага абслугоўваньня шырокіх рабочых мас.

Элемэнтарным павінна быць для кожнага гаспадарніка, кажнай профсаюзнай грамадзкай арганізацыі, што пасьпяховая барацьба за выкананьне прамфінпляну, з цякучасьцю, барацьба за падняцьце вытворчасьці працы нямысьліма ня толькі без ліквідацыі ўраўнілаўкі, абязьлічкі, палепшаньне жыльлёвых умоў но і без чыстаты ў цэху, інтэрнаце рабочых кватэрах, без захаваньня санітарнага мінімума.

Паралельна з ростам культурнага ўзроўня мас мы маем палепшаньне аховы здароўя (паніжэньне агульнай дзіцячай смертнасьці, зьніжэньне заба-

леваньня сярод рабочых, рост сеці органаў аховы здароўя ня толькі ў горадзе, але у вёсцы), мы маем значнае палепшаньне культурна санітарнага абслугоўваньня працоўных мас. У шэрагах мясцох праводзіцца рашучая барацьба з антысанітарыяй, меюцца прыкладныя па чыстаеце рабочы паселкі, інтэрнаты і г. д

Но дасягнутага далёка не дастаткова. Тэмпы разьвіцьця здраваахраненія асабліва па галіне санітарна бытавых умоў працягваюць адставаць ад роста ўсей народнай гаспадаркі і запатрабаваньня рабочай клясы цалкам.

Паляпшэньня санітарна бытавых умоў жыцьця рабочых упіраецца ня столькі ў адсутнічаньні сродкаў. сколькі ў адсутнічаньні належнай работы з боку гаспадарчых, прафэсыйных і грамадзкіх мас.

Рабочым камітэтам неабходна падняць і стаць кіраўнікамі рабочых мас за караное паляпшэньня рабочага быту ў дзеле паляпшэньне культурна санітарных умоў, мы павінны і можам у кратчайшы тэрмін дабіцца рэзкага пералому ў гэтай справе.

У мэтах уцягненьня рабочае масы ў справу аздараўленьня труда і быта ў савецкіх гаспадарках Прэзыдыум Рэсп. К-ту Саюзу РЖС пастанаўляе:

1) Арганізаваць пры рабочых камітэтах групы садзейнічаньня аховы здароў'я, якія ўвязываць усю працу з вылучанымі арганізатарамі ў саўгасах труда і быта. Група садзейнічаньня мабілізуя ўвагу ўсіх рабочых на выкананьне наступных задач:

а) Група садзейнічаньня арганізуецца: здабраахвотніцкага актыву саўгаса. камсамольцаў настаўнікаў, сябраў Асоавіахіму і мэдпэрсаналу. Група садзейнічаньня выдзяляе тройку пад старшынством члена рабачкома, які падрыхтоўвае пытаньня дапленума, групы садзейнічаньня праводзяць кантроль выкананьня пастаноў Пленума. Група садзейнічаньня вылучае сваіх прадстаўнікоў, дзеля сувязі з сэкцыяй аховы здароў,я і быту- пры сельсавеце.

б) Садзейнічае правядзеньню обшчэазда равіцельных мерапрыемств як то: арганізацыя грамадзкага харчаваньня, бані, прачэшныя справы, вадазабясьпячэньне, зьнішчэньне нечыстот і адбросаў, сачыць за правідловым функцыяніраваньнем і санітарным становішчам сталовак, бань, прачэшных, крыніц вадаснабжэньня, уборных і г. д.

в) Распрацоўвая плян па санітарнаму мінімуму у саўгасу і на вучастках, актыўна удзельнічая у правядзеньні мерапрыёмств санітарнага мінімума, арганізуя сацспаборніцства і ударніцства дзеля правядзеньня санітарнага мінімума.

г) Сачыць за умовамі труда, выкананьнем прэдпісаній датычачыхся тэхнікі небясьпечнасьці, садзейнічая барацьбе з траматызмам.

д) Сачыць за санітарным становішчам, уборкай і праветрываньнем жыльлевых памяшканьняў, за чыстатой і сан. становішчам плошчаў, уліц, двароў у саўгасаў і на вучастках.

е) Садзейнічая арганізацыі дзет. ясьляў і дзіцячых пляцовах і арганізацыі кармленьня дзяцей і падлеткаў.

ж) Актыўна удзельнічая у арганізацыі фізкультуры у саўгасах і на вучастках.

з) Садзейнічая правядзеньню перыядычнага мэдыцынскага агляду рабочых і у першую чаргу падлёткаў і унядрэньню мэтадаў работы мэд. устаноў абслугоўваемых саўгаса.

і) Сачыць за сваечасовым паведамленьнем урача аб выпадках заразных забалеваній і сваечасовай гаспіталізацыі хворых і наступнай дезынфекцыі.

к) Прымая удзел у барацьбе з туберкулезам, вен. забалеваніямі. алькоголізмам, садзейнічая арганізацыі лячэньня.і

л) Прымая удзел у устанаўленьня рэжыма труда і адпачынку рабочых саўгаса і на палявых работах, садзейнічая арганізацыі грамадзкага харчаваньня, вадаснабжэньня у полі, садзейнічая абясьпячэньню брыгад на вучастке памяшканьнем (вагончыкамі, палаткамі, уцяпленымі баракамі) і сачыць за іх абарудаваньнем і санітарным становішчам.

м) Актыўна ўдзельнічая у распрацоўцы мерапрыемства па мэд. абслугоўваньню палевых рабочых (арганізуя гурткі першай дапамогі, пункты першай дапамогі, сачыць за папаўненьнем аптэкі палявых ясель, сан. мінімум у поле).

н) Садзейнічаньня мэд. брыгадам накіраваным у саўгасы на час палявых работ і прымая меры к сазданію благаприятных умоў для іх работы.

о) Клапаціцца аб правільным і сваечасовым аказаньні рабочым і іх семьям усіх відаў мэдыка санітарнай дапамогі, аб прадстаўленьні транспарта для перавозкі хворых і служачых, раз'ездаў мэд. персанала і аб правідловым функцыяніраваньні мэдыка санітарных установ саўгасаў.

п) Удзельнічая у сацыяльным адборы рабочых і служачых, установ пры размяркаваньні усіх відаў сацыяльнай лячэбнай дапамогі (курорт дамы адпачынку).

р) Арганізуя сумесна з рабачкомам лекцыі, бяседы, куткі здароўя аховы, прыймая меры да снабжэньня бібліатэкі і распаўсюджвая сярод рабочых саўгасу санітарна-асьветнай літэратуры ставіць пастаноўкі, пьесы і г. д.

3) Члены груп садзейнічаньня размяркоўваюць паміж сабой сваю работу, пры чым кожны член группы садзейнічаньня павінен несьці сталую работу, за якую ен адказвае. Дзеля правядзеньня кампаній (месячніка чыстаты супроць туберкулезнай, ясельнай і г. д.) а так сама для пастаноўкі рабочага кантролю паасобным пытаньням із членаў групы садзейнічаньня арганізуюцца брыгады з шырокім уцягненьнем рабочых саўгаса і іх сямейства.

4) На вучастках і ў брыгадах у час палявых работ вылучаецца упаўнаважаны групы садзейнічаньня, які праводзіць работу з уцягненьнем рабочых данага вучастку і брыгады.

5) Пасяджэньне тройкі праводзіць рэгулярна ня меньш двух раз у месяц. Сходы групы садзэейнічаньня склікаюцца не радзей аднаго разу у месяц. Пратаколы сходаў групы садзейнічаньня і тройкі зацьвярджаюца рабочым камітэтам.

6) Група садзейнічаньня адчытываецца аб сваей рабоце перад рабачкомам і агульным сходам саўгасаў.

7) Вынікі правядзеньня работы па правядзеньню арганізацыі сан. мінімума кожных дзесяць дзен накіроўваць у БРК Саюзу жывелагадоўчых саўгасаў.

## ПАСТАНОВА

### Прэзыдыуму Рэспубліканскага Камітэту саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў аб рабоце сярод новых кадраў рабочых.

*Ад 19/VIII—31 г.*

Дзякуючы шпаркаму росту савецкіх гаспадарак колькасьць рабочых у іх на працягу 1931 г. значна павялічылася. Па Белсаўгастрэсту на 1/1-31 г. мелася 6521 раб. на 1/VIII-31 г. маецца 10229 раб. павялчэняне на 56,8%; па "Сьвінаводу" на 1/1-31 г. мелася 3029 раб. на 1/VIII-31 г.-10993 раб. павялічэньня на 162,9%. Такое вялікае павялічэньне рабочай сілы у савецкіх гаспадрках. галоўным чынам ідзе у саўгасы з вёскі з бедняцкай і серадняцкай часткі селянства, якія нясуць з сабой перажыткі старога быту.

Таму баявой задачай прафарганізацыі, у прыватнасьці рабачкомаў, зьяўляецца максімальнае разгортваньне культмасавай і палітвыхаваўчай работы сярод новых кадраў рабочых.

Прэзыдыум адзначае, што большасьць рабочых камітэтаў не даацэніваюць палітычнай важнасьці работы сярод новых кадраў рабочых:

а) Надзвычайна марудна праходзіць ахоп новых рабочых кадраў саюзным членствам.

б) Зусім слаба разгортваецца паміж іх сацспаборніцства і ударніцства.

в) Адсутнічае культмасавая і палітвыхаваўчая работа па перабудове быту, па аўладаньню тэхнікай і г. д.

г) Асабліва адсутнічае работа сярод жанчын.

Выходзячы з гэтага Прэзыдыум ПСТАНАЎЛЯЕ:.

1) Для далейшага разгортваньня і узмацненьня культурна-выхаваўчай і палітыка масавай работы сярод новых кадраў рабочых, абавязаць рабачкомы на спэцыяльных пасяджэньнях абгаварыць пытаньне становішча работы сярод новых рабочых і намеціць далейшыя мерапрыемствы і у штодзёнай сваей працы дабіцца каранного пералому па уцягненьню новых кадраў рабочых у актыўную барацьбу за выканань-

не прамфінплянаў і сацыялістычна сьвядомых адносін да вытворчасьці. Трэба шырока разгарнуць усе формы і віды культмасавай работы, паліт. і праф. гурткі і гурткі па аўладаньню тэхнікай з тым каб ні воднага новага рабочага не засталося па за вучобай.

2) Шырока азнаямляць новыя кадры рабочых з становішчам сацыялістычнай гаспадаркі, з яе далейшымі пэрспэктывамі разьвіцьця і задачамі рабочай масы саўгасаў, прыцягваючы новых рабочых да актыўнага ўдзелу ўва ўсім гаспадарчым і палітычным жыцьці саўгасу шляхам шырокага разгортваньня сярод іх сацспаборніцтва і ударніцтва. Рабачкомы у бліжэйшы час павіны дабіцца таго, каб ні воднага рабочага і работніцы не было—б па за шэрагамі ударнікаў.

3) Рабачкомам разгарнуць работу па перабудове быту сярод новых кадраў рабочых, шляхам правядзеньня рашучай барацьбы з уселякімі старымі перажыткамі: рэлігійнасьцю, пьянствам, шляхам узмацненьня культурна выхаваўчых мерапрыемств і скарыстоўваючы для гэтай мэты насьценгазэты і друк.

4) Зьвярнуць асаблівую увагу на разгортваньне работы сярод жанчын уцягваючы іх у грамадзка-палітычнае жыцьцё саўгасу, сыстэматычна падвышаяючы культурны уровень і клясавую сьвядомасьць праз дэлегацкія сходы жанчын, паліт. і праф. гурткі і іншыя віды культ. масавай работы.

5) Для падвышэньня тэхнічнай сьвядомасьці сярод новых кадраў рабочых, а абавязаць усе рабачкомы безадкладна арганізаваць гурткі па аўладаньню тэхнікай (там дзе яны не арганізованы) па зоотэхніке, вэтэрынараў, агранаміі і г. д. якімі ахапіць усіх рабочых.

6) Інтэрнацыянальна-клясавае выхаваньне павіна заняць галоўнае мейсца ува усей культвыхаваўчай рабоце, таму рабачкомы павіны шырока папулярызаваць праводзімую партыяй нацыянальную палітыку, даючы рашучы адпор выпадкам велікарасейскага шавінізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе нацыянал-дэмакратызму, антысымітызму і іншаму шавінізму, паглыбіць правядзеньне дня нацменьшынств культ. работы на роднай мове.

7) У мэтах выкананьня дырэктыў партыі і прафсаюзаў аб ператварэньні нашай краіны да 1-га красавіка 1932 г. у краіну суцэльнай пісьменнасьці, рабачкомы павіны скарыстацць усе магчымасьці і унутраныя рэсурсы па ахопу лікпунктамі усіх няпісьменных новых рабочых.

8) Ахапіць усе новыя кадры рабочых 100% падпіскай на газэты, забяспечыць правядзеньне громкай чыткі газэт у інтэрнатах і ў часе абедзенага перапынку.

9) Ахоп саюзным членствам новых кадраў рабочых праходзіць недапушчальна марудна, таму на падставе абвешчанага ЦК Саюзу і Рэспубліканскага К-ту месячніка росту саюзу, рабачкомы павіны разгарнуць шырокую работу па вярбоўцы у саюз новых кадраў рабочых.

## ПАСТАНОВА

**Прэзыдыуму Рэспубліканскага Камітэту саюзу рабочых жівёлагадоўчых саўгасаў аб арганізацыі культсаветаў у саўгасах.**

*Апросам ад 23/VIII—31 г.*

У мэтах перабудовы і узмацненьня палітвыхаваўчай работы у саўгасах і падпарадкаваньня яе да задач сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, забеспячэньня штодзёнага сталага кіраўніцтва культработай з боку рабачкому і неабходнага разгортваньня палітвыхаваўчай і інтэрнацыянальна клясавай работы сярод усіх груп рабочых саўгасаў і уцягненьня шырокіх кол рабочых у ва ўсе формы і віды культмасавай работы, Прэзыдум Рэсп. К—ту саюзу РЖС ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1) Арганізаваць пры рабачкомах саўгасаў культпалітсаветы на падставе зацьверджанага палажэньня ЦК саюзу аб культпалітсаветах.

2) Культпалітсавет праводзіць сваю работу пад непасрэдным кіраўніцтвам рабачкомаў, і складае свой адзіны культплян. які павінен ахапіць наступныя культурныя мерапрыемствы:

а) Масава-гаспадарчыя і палітычныя кампаніі і растлумачэньне гэнеральнай лініі партыі.

б) Інтэрнацыянальна-клясавае выхаваньне і забеспячэньне пашырэньня руху сацспаборніцтва і ударніцтва.

в) Падпарадкаваньне усей культурна асьветнай работы задачам рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і забеспячэньня выкананьня і перавыкананьня прамфінпляну.

г) Арганізацыя усеагульнага навучаньня і палітэхнізацыя школ.

д) Ліквідацыя непісьменнасьці і малапісьменнасьці.

е) Падрыхтоўка кадраў і ауладаньне тэхнікай.

ж) Перабудова быту (сацыяльна бытавыя установы, паляпшэньне рабочай каапэрацыі, грамадзкага харчаваньня, антырэлігійна—антыалкагольная кампніі і інш).

з) Ваенізацыя і фізкультура.

3) Рабачкомы арганізоўваючы культсаветы павіны прыцягнуць да гэтай справы усіх рабочых ударнікаў, спэцыялістых і усе культурныя сілы да актыўнага удзелу у складаньні адзінага культурнага пляну і перабудове усей культмасавай работы і падпарадкваньню яе к задачам пасьпяховай перабудовы сельскай гаспадаркі.

Зацьверджана Прэзыдыумам ЦК Саюза ад 1/VII—31 г.

# ПАЛАЖЭНЬНЕ

## Аб культ. саветах ў жывёлагадоўчых саўгасах.

Культурный Савет у саўгасах арганізуецца пры рабачкоме саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў для плянава аперацыйнага кіраўніцтва, на падставе адзінага пляна усей культурна-палітыка асьветнай работы ў саўгасе, праводзімай саюзам рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў, органамі Нарасьветы, каапэрацыяй дабраахвотнымі вобчэствамі і другімі грамадзкімі і дзяржаўнымі арганізацыямі.

Культурны савет саўгасу зьяўляецца кіраўнічым плянава-аперацыйным органам, ахопліваючым пытаньні ня толькі культурнага абслугаваньня рабочых у саўгасе, вучастку, цэху, але і па мейсцуіх жыхарства у казармах, інтэрнатах і мясцох жыхарства рабочых сямейств.

### 1. Асноўыня задачы работы культ. савету ў жывёлагадоўчым саўгасе.

1) Арганізацыя культурна—масава—палітычнай работы вакол правядзеньня вытворчых і рабочых плянаў саўгасу (прамфінплян, сустрэчны плян зьдзельшчына, гас. разрахунак) і правядзеньня гаспадарчых і палітычных кампаній (пасеўная, уборачная, злучная, мабілізацыя сродак, пазыка і г. д.).

2) Правядзеньне праз усю сетку культ. устаноў палітычнай работы сярод рабочых, агітацыйна-масавай рабоы і правядзеньня бягучых палітычных кампаній і арганізацыя культурна выхаваўчай работы па калектывізацыі на падставе пастаноў Партыі, Улады і вышэйстаячых саюзных арганізацый.

3) Праводзячы барацьбу супроць усякіх скажэньняў Ленінскага вучэньня аб прафсаюзах, выкарчоўваючы трэд-юніоніцкія тэндэнцыі і праяўленьне усіх відаў апартунізма і прымірэнцкіх адносін да іх;к, у практычнай культ.паліт выхаваўчай рабоце, так і ў тэорыі прафруху, мабілізуючы шырачэйшыя масыпрацоўных на барацьбу за генэральную лінію партыі.

4) Разгортваньне і правядзеньне мерапрыёмств па падвышэньню тэхнічнай узброенасьці рабочых мас, дабіваючыся шляхам вытворчай прапаганды і масавй тэхнічнай адукацыі, уцягненьня усіх сяброў саюзу у актыўны удзел у тэхнічнай рэканструкцыі жывёлагадоўчых саўгасаў і усей сацыялістычнай гаспадаркі (арганізацыя тэхнічных курсаў, лекцый, гурткоў па ауладаньню тэхнікай, курсаў рабочай адукацыі і г. д.).

5) Разгортваньне палітыка—выхаваўчай антырэлігійнай і інтэрнацыянальнай работы, ускрываючы варожую пралетарыяту клясавую сутнасьць рэлігійных, нацыяналістычных і другіх прэдразсудкаў, уздымаючы шляхам культурнага выхаваньсьвядомасьць рабочых мас да узроўню камуністычнага міраразуменьня.

6) Правядзеньне ліквідацыі няпісьменнасьці, арганізацыі ліквідацыі мала-

пісьменнасьці і садзейнічая правядзеньню усеагульнага пачатковага навучаньня і палітэхнізацыі школ.

7) Разгортваньне бібліатэчнай работы і абучэньне рабочых рабоце над кнігай і газэтай.

8) Арганізацыя насьценгазэт (стварэньне рабкораўскага актыву) і распаўсюджваньне сярод рабочых цэнтральнага друку, кіраўніцтва перасоўвачнымі формамі культ. работы (культ. павозкі, аўтамабілі, кіно—перасоўкі і г. д.) у адпаведнасьці з умовамі і характарам жывёлагадоўчай вытворчасьці, атаксама арганізоўваючы рабочых праз радыё і кіно.

9) Арганізацыя дзіцячага камуністычнага выхаваньня (дзіц. ясьлі, пляцоўкі, дапамога піанер-атрадам).

10) Разгортваньне работы дабраахвотных арганізацый (МОПР, АСОВІАХІМ, ОДР, ОДН і інш) звярачваючы асобую увагу на ўнядрэньне вайсковых і фізычна-культурных ведаў і навыкаў.

### 2. Работу культ- паліт. савета падпарадкаваць адзінаму культ. пляну.

Для ажыцьцяўленьня гэтых задач культурны савет мабілізуе рабочую грамадзкасьць вакол пытаньняў культурнага будаўніцтва, складае адзіны аперацыйна-фінансавы плян на падставе аб'яднаемых арганізацый і забясьпечвае адзінае кіраўніцтва культурна-палітычнай работай у саўгасе. У межах адзінага пляна усе арганізацыі, вядучыя култ. работу захоўваюць сваю арганізацыйна—аперацыйную самастойнасьць і вядуць сваю работу мэтадамі звычайнага характару і задачам данай арганізацыі. Цэнтралізаваныя мерапрыемствы розных прафсаюзаў і другіх арганізацый у саўгасах праводзяцца на падставе спэцыяльных дагавароў і асобных пастаноў культ. савету, зацьверджанымі вышэй стаячымі саюзнымі органамі (стварэньне бібліатэчных фондаў, радыёфікацыя, кіно абслугаваньне, правядзеньне розных курсаў і г. д.).

### 3. Склад культ. савета.

Культурный савет арганізуецца адзін у саўгасе і складаецца з прадстаўнікоў: 1) партарганізацыі, прадстаўніка ВЛКСМ, прадстаўніка вучастковых культарганізатараў саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў, прадстаўнікоў ячэек дабраахвотных арганізацый, арганізатара фізкультуры, рэдактара друкаваных і насьценгазет, абслугоўваючых данны саўгас, прадстаўнікоў школ, прадстаўніка сэкцыі спецыялістых, заг. клюбам, бібліатэкараў, прадстаўніка каапэрацыі, прадстаўніка дырэкцыі саўгаса, прадстаўнікоў бліжэйшых калгасаў і інш.



### 4. Кіраўніцства культ. саветамі.

Кіраўніцства культурным саветам у саўгасе ажыцьцяўляецца рабачкомам саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў. Прадстаўніком культ. савету зьяўляецца сябр рабачкому-арганізатар па культасьвет рабоце. Уся гаспадарчая і фінансавая дзейнасьць культсаветаў рэвізуецца рэвізыйнымі камісіямі рабачкома саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў.

### 5. Вучастковая культнарада.

На вучастках, у якіх працуе на працягу сельска гаспадарчага сэзону ня меньш 25 асоб сталых і сэзонных рабочых складаецца вучастковая культнарада з прадстаўнікоў партарганізацый, камсамолу, групавых культарганізатараў, упаўнаважаных дабраахвотных арганізацый, прадстаўнікоў гурткоў фізкультуры, рэдактара насьценгазеты, прадстаўніка спецыяліста, заг. чырвоным кутком і прадстаўніка калгаса. Вучастковая культнарада сваю работу праводзіць па дырэктывах агульнасаўгаснага культсавета і вучастковага кмітэту саюза, кіраўніком нарады зьяўляецца вучастковы культпрапарганізатар.

### 6. Культарганізатар групы.

У кожнай вытворчай групе, дзе выдзелен па прафгаліне групорг, вылучаецца арганізатар культасьветработы. Культасьвет—арганізатар праводзіць работу па уцягненьню ва ўсе віды і формы палітмасавай і культурнай работы. Ён інфармуе рабочых аб мерапрыемствах, праводзімых культурным саветам саўгасу альбо культнарадай вучастку, падлічваець іх культурнае запатрабаваньне рабочых і ажыцьцяўляець запатрабаваньні праз вучастковыя альбо агульнасаўгаскія культарганізацыі.

## 7. Культ. савет і саўгаскі клюб.

Кіраўніцтва саўгаскім клюбам, перасоўвачнымі формамі культабслугоўваньня (кіно, культ. аўтамабілі, культ. павозкі, бібліатэкі-перасоўкі і г. д.) ажыцьцяўляецца саўгаскім культсаветам, скарыстоўваючым гэтыя мерапрыемствы як галоўную базу для усіх масавых культурна-палітычных мерапрыемств, правадзімых як на вытворчасьці, а так сама і у інтэрнатах.

## 8. Бюро культ. савета.

а) Старшыней саўгаснага культсавету зьяўляецца культарганізатар рабачкому. Для бягучай апэрацыйнай работы савет вылучае бюро у складзе ад трох да пяці асоб, ажыцьцяўляючы штодзёнае кіраўніцтва работай і мабілізуючы грамдзкасьць вакол вытворчых і палітычных задач культурнага будаўніцтва у саўгасе і падшэфных калгасах.

б) Бюро культсавету разьбівае адзіны плян работы паасобным вучасткам прыкладна: палітвыхаваньня, вытворча-тэхнічная асьвета, усеабуч, лікбезработа, работа у калгасах, работа сярод дзяцей, друк і г. д.) і вылучае арганізатара гэтых вучасткаў работы. Абавязкам арганізатара зьяўляецца інструктаж, дапамога і праверка работы асобных арганізацый саўгасу аб'ядваемых адзіным плянам культсавета. Сумесна з тым бюро праводзіць вучот культурных і прапагандыскіх сіл і сродкаў у выпадку неабходнасьці праводзіць перакідку іх з аднаго вучастку альбо віда работы на другі. Бюро падрыхтоўвае пытаньні на абгаварэньне пленума Культсавета, зьбірае пленуму матарыялы, праводзіць сыстэматычный матарыяльны і фінансавы вучот і нясе адказнасць за выкананьне усіх пытаньняў адзінага пляна работы.

## 9. Пленум культсавета.

Пленум культсавета зацьверджае адзіны апэрацыйна-фінансавы плян і заслухоўвае рэгулярныя інфармацыі бюро і асобныя арганізацыі аб ходзе яго выкананьня. На пленуме адчытываюцца аб сваёй рабоце ўсе аб'яднаныя арганізацыі, вучастковыя арганізатары і загадчыкі клюбамі. Пленум культурнага савета зьбіраецца не радзей аднаго раза ў месяц. Культурны савет адчытываецца аб сваёй рабоце не радзей аднаго рааа ў тры месяцы на агульна саўгаскім альбо вучастковым сходзе рабочых, і не радзей аднаго раза ў два месяцы адчытываецца на паседжаньні рабачкому. Раённыя саветы культурнага будаўніцтва ў рамках прысвоеных ім правоў і абавязкаў, ажыцьцяўляюць удзел над культурнымі саветамі саўгасаў па пытаньнях, зьвязаных з пабудовай адзінага пляну культурнага будаўніцтва сельсавета, раёна (пляніроўка работ, кантроль за выкананьнем і арганізацыей грмадзкасьці). Рабачкомы саўгасаў для ўзмацненьня грамадзкага кантролю над пабудовай культработы арганізуюць часова-кантрольныя камісій, якія праз кожныя 5 месяцаў утвараюць праверку на ўсе віды культурнай работы і культурнага будаўніцтва ў цэлым. Пры культсаветах складаюцца юнацкія сэкцыі існуючыя на падставе юнсэкцый праводзячых усю работу па уцягненьню моладзі у работу культсавета і садзейнічаюць поўнаму ахвату моладзі культурна—масавай, палітычна тэхнічнай адукацыйнай работай. Паліт. адукацыя, парт. сетка, тэматычныя, палітгурткі прапагандыстаў, саупартшколы, знаходзяцца пад непасрэдным кіраўніцтвам партыйных ячэек, а па лініі моладзі пад кіраўніцтвам ВЛКСМ, але уваходзяць у сыстэму адзінага пляна. Побач з гэтым культсаветы нясуць адказнасьць за палітвучобу рабочых і моладзі у саўгасах. Культ. саветы саўгасаў і культнарады не зьяўляюцца юрыдычнымі ворганамі і усю работу зьвязаную з юрыдычнымі правамі праводзяць праз адпаведныя прафарганізацыі і дзяржворганы.

## 10. Заключэньне.

Ў аснове культработы у саўгасах павіна быць паложана арганзацыя рабочай грамадзкасьці вакол разгортваньня сацспаборніцтва і ударніцтва, выкананьня прамфінпланаў і узмацненьня арганізуючай ролі саўгасаў у калектывізацыі вёскі. Уся культурная работа павіна будавацца па прынцыпу шырокага уцягненьня дабраахвотнікаў і скарачэньня да мінімума платнага апарату. Перабудова культурнай работы у саўгасах ня можа быць забяспечана без рашу-

чай барацьбы з апалітычнасьцю, а патрабуе канкрэтнага зьместу работы з жыцьця саўгасу.

Неабходна ў ва весь зьмест масавай культурна-выхаваўчай работы укласьці элементы, якія мабілізавалі бы рабочыя масы на выкананьне і перавыкананьне як калектыўнага гаспадара саўгасу, элемэнты выхоўваючыя у саўгаскім рабочым сьвядомых адносін к працы, к саўгаскай маёмасьці і к саўгасу у цэлым.

Работа па новаму будзе забяспечана толькі пры умовах прочнай пастаноўкі работы з актывам сыстэматычнай яго падгатоўкі праз прыцягненьне да актыўнага удзелу у практычнай культрабоце і кіраўніцтву ей. У мэтах падрыхтоўкі культактыва з асяродка лепшых ударнікаў складаюцца курсы—сэмінары, гурткі, ахоп заочнай адукацыяй рабочых у саўгасах, арганізуюцца габінэты культработы і інш.

## ПАСТАНОВА

**Пьэзыдыуму Рэспубліканскага Камітэту саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў аб выніках ліквідацыі непісьменнасьці і малапісьменнасьці і арганізацыя лікбезработы на 1931/32 г,**

*Ад 19|VIII-31 г.*

Прэзыдыум Рэспубліканскага Камітэту Саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў адзначае:

а) Работу па ліквідацыі непісьменнасьці і малапісьменнасьці па нашаму саюзу прызнаць нездавальняючай.

б) Большасьць рабачкомаў недаацанілі гэтага палітычнага пытаньня, таму і лікбезработа па нашаму саюзу праводзілася тэмпамі не адпавядаючымі будаўніцтву саўгасаў.

в) Рабачкомы не змаглі скарыстаць унутраныя рэсурсы і магчымасьці для узмацненьня лікбезработы, ня выканалі пастаноў Партыі і саюзных арганізацый аб правядзеньні культурных мерапрыёмств, забясьпечваючых узмацненьне лікбезработы (культ. эстафета, дэкаднік штурму прарываў у лікбезрабоце, культурный паход і інш.) У выніку чаго ў некаторых саўгасах лікбезработа зусім не праводзілася (рабачкомы саўгасау Залог Пяцігодкі, Гарадок, Бабінічы, Рачкавічы, і інш).

г) Безадказныя адносіны з боку паасобных рабачкомаў да вучоту няпісьменных і малапісьменных і сваечасовай інфармацыі Рэсп. К-ту, які да гэтага часу ня мае поўнага матар,ялу ліквідацыі непісьменнасьці. Маючыяся зьвесткі аб ліквідацыі непісьменнасьці і малапісьменнасьці па 68 нізавых ячэйках даюць наступны малюнак: з 772 няпісьменных ліквідавла сваю няпісьменнасьць толькі 590 асоб, альбо 76,3%; з ліку 1199 малапісьменных ліквідавала сваю непісьменнасьць толькі 718 асоб альбо 66,3%, гэтыя лічбы і работа па ліквідацыі непісьменнасьці ні у якай меры ня могуць забясьпечыць задач саўгаскага будаўніцтва і вырашэньня задач культурнай рэвалюцыі.

У мэтах дасягненьня рашучага пералому у справе арганізацыі лікбезработы сярод рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў на 1931/32 г. Прэзыдыум Рэспубліканскага Камітэту ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1) Абавязаць усе рабачкомы зараз жа уключыцца у правядзеньне "дня вучобы" 1-га верасьня, які скарыстаць для шырокай падрыхтоўкі да новага навучальнага году, забясьпечыць поўны 100% ахоп школамі дзяцей падлягаючых усеагульнаму абявязковаму навучанью, поўны ахоп лікпунктамі усіх няпісьменных рабочых саўгасаў да 50 год і членаў сямей да 45 год. Уцягнуць усіх рабочых малапісьменных у двух гадовыя вячэрнія школы малапісьменных да 35 год, і членаў іх сямей.

2) У справе падрыхтоўкі да новага навучальнага году і арганізацыі лікбезработы, мабілізаваць усю рабочую грамадскасьць саўгасаў і прыцягнуць да актыўнага удзелу у выкананьні важнейшай палітычнай задачы-ператварэньня нашай краіны у краіну суцэльнай пісьменнасьці, гэта значыць поўная ліквідацыя няпісьменнасьці да 1-га красавіка 1932 году сярод усіх груп рабочых саўгасаў і іх сямей (па усіх саўгасах няпісьменных 4500 чал. і малапісьменных 3059 чал).

3) Для правядзеньня поўнага вучоту і уцягненьня непісьменных і мала-

пісьменных ў лікпункты, а так сама для своечасовага падшуканьня памяшканьня, іх рамонту і абсталяваньня, арганізаваць дабраахвотныя брыгады з рабочых ударнікаў, прафактыву і камсамольцаў і работу гэту правесьці з такім разрахункам, каб нармальныя заняткі на лікпунктах і школах малапісьменных пачаць не пазьней 10-га Верасьня.

4) У ва ўсей падрыхтоўчай рабоце да новага навучальнага году і у практычнай рабоце лікпунктаў і школ малапісьменных шырока разгарнуць сацспаборніцтва і ударніцтва. Для прэміраваньня лепшых арганізатараў і за лепшую лікбезработу выдзеліць прэміяльны фонд пры Рэс. К—це з культфонду у суме 1000 руб. Даручыць Культ. Сэктару Рэсп. Камітэта памеціць парадак яго скарыстаньня для прэміраваньня.

5) Рабачкомам зараз жа разгарнуць шырокую вярбоўку культармейцаў з ліку пісьменных рабочых ударнікаў, камсамольцаў і прафактыву. Прэзыдыум абавязвае кожны рабачком да 25—га верасьня завярбаваць ня меньш як 8 культармейцаў, якія павіны працаваць на лікпунктах, апрача гэтага прыцягнуць да дапамогі у правядзеньні лікбезработы іншыя саюзы знаходзячыяся у вёсцы. (Рабпрос, Дзяржустаноў, Мэдсанпрацы і О—ва ОДН).

6) Улічваючы, што у мінулым годзе зрывалась работа на лікпунктах за адсутнасьцю памяшканьня, вопраткі і абуткаў, даручыць тав. КАРПУСЕНКА тэрмінова дамовіцца з Трэстамі і Белкаапсаюзам аб дачы імі паказаньня сваім нізавым арганізацыям аб складаньні лепшых умоў для нармальнай работы лікпунктаў.

7) К тым асобам, якія ня маюць магчымасьці наведваць лікпункты прымацаваць культармейцаў для індывідуальнага навучаньня.

8) Паставіць пытаньне перад Наркамасьветы аб своечасовым забясьпячэньні лікпунктаў і школ малопісьменных падручнікамі, праграмамі і мэтадычным кіраўніцтвам.

9) Для правядзеньня тэхнічных гадзін у лікпунктах, вылучыць адпаведны тэх. пэрсанал, а для правядзеньня паліт. гадзін паставіць пытаньне перад партыйнымі і камсамольскімі арганізацыямі аб вылучэньні для гэтага партыйцаў і камсамольцаў.

10) Прэзыдыум патрабуя ад усіх рабачкомаў выкананьня пляну ліквідацыі непісьменнасьці і культурнага будаўніцтва нараўне з вытворчымі плянамі у саўгасах.

11) Абавязаць усе рабачкомы праз кожныя дзьве дэкады інфармаваць Рэспубліканскі Камітэт аб ходзе лікбезработы, апрача таго кожны месяц заслухоўваць на пасяджэньні Прэзыдыуму 2 -3 рабачкомы.

## ПАСТАНОВА

### Прэзыдыум Рэспубліканскага Камітэту Саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў аб рабочым шэфстве над дзяжапаратам.

*Ад 19/VIII—31 г.*

Ажыцьцяўленьне гіганскіх задач сацыялістычнага пралетарыяту па усяму фронту, патрабуя ад усіх зьвеньняў савецкага, каапэрацыйнага і гаспадарчага апарату пераключэньня на баявыя тэмпы, чоткага выразнага правядзеньня у жыцьцё дырэктыў Партыі.

Таму уся увага рабачкомаў і рабочай масы саўгасаў павіна пайсьці па шляху унядрэньня канкрэтных форм рабочага шэфства над савапаратам, гэтым самым уцягненьня шырокіх рабочых мас у кіраўніцтва саўапаратам.

Прэзыдыум Рэспубліканскага Камітэту Саюзу рабочых жывёлагадоўчых аўга саў ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1) Прапанаваць рабачкомам, шыро ка мабілізаваць рабочую увагу і склась ці грамадзкую думку вакол пытаньня "рабочае шэфства над саўапаратам", дабіцца сталым масавым рабочым кантролем сыстэматычнай праверкай з боку саўгасаў шэфа чоткага выкананьня дырэктыў партыі савецкім апаратам і выграўліваньня з яго элемэнтаў бюракратызму, апартунізму, шкодніцтва і інш. скажэньняў на аснове унядрэньня мэтадаў сацспаборніцтва і ударніцтва, рашуча выкрываючы праз шэфства усякія балючыя зьявішча апарату,

2) Прэзыдыум абавязвае кожны рабочы камітэт узяць шэфства над адной

з устаноў савецкай, каапэрацыйнай, альбо гаспадарчай арганізацыяй, для гэтага пры рабачкоме арганізуецца шэфская камісія, а у падшэфнай установе камісія садзейнічаньня рабочаму шэфству.

3) Рабачкомы павіны на агульных сходах рабочых, шырока растлумачыць палітычны сэнс рабочаго шэфства і накіраваць яго на арганізацыю праверкі выкананьня рашэньняў камісіі па чысцы савецкіх устаноў, прымацаваньні рабочых брыгад да пасобных частак падшэфнага апарату, для сталай праверкі і нагляду за правільнасьцю яго работы, за сваечасовым выкананьнем пастаноў партыі, Ураду і прафсаюзаў шляхам пастаноўкі дакладаў пад шэфных устаноў на рабочых сходах с садакладамі шэфскіх камісій і прадстаўнікоў Р С І.

4) Адна з новых форм рабочага шэфства, гэта сацсаўмясьціцельства, якое павіна быць шырока распаўсюджана у працэсе усей шэфскай работы. Гэтыя сацсаўмесьціцелі павіны абірацца на агульных сходах з ліку лепшых рабочых ударнікаў, якіх прымацоўваюць да адказных работнікаў раёна, альбо сельсавета, дзе яны працуюць у вольны час ад работы, зьяўляючыся намесьнікамі гэтых адказных работнікаў.

5) Неабходнай умовай павіна зьявіцца перыядычнае пад агуліваньне практыкі работы брыгад па шэфству, сваечасова рэагуючы і сігналізуючы на пасобныя моманты хваравітых зьявішч.

6) Праз месячны тэрмін утварыць праверку аб правядзеньні у жыцьцё гэтай пастановы, а так сама заслухаць на пасяджэньні Прэзыдыума наступныя рабачкомы: 1—ае Мая (Станіслававо), Забалоцьце, Сталіна і раёны.

---

# ЗВОДКА

**аб руху ўдарніцтва па саўгасу**..........................................(назва саўгасу).

Прысылаецца ў Бел. Рэспубліканскі К-т саюзу: 1-га і 15-га чысла кожнага месяцу

| Колькі маецца ў саўгасе рабочых усіх катэгорый. | У тым ліку лічыцца: | | | | | | | Колькі ўдарнікаў прэміравано (чал.) | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Штатных рабочых | Сэзонных рабочых | Будаўнічых рабочых | Падзенных рабочых | Членаў і канд. партыі | Член. КСМ | Спэцыяліс. | Жанчын. | Мужчын | Жанчын | Спэцыялістаў |
| Усяго рабоч. / З іх ударнік. | Усяго рабоч. / З іх ударнік. | Усяго рабоч. / З іх ударнік. | Усяго рабоч. / З іх ударнік. | Усяго рабоч. / З іх ударнік. | Усяго рабоч. / З іх ударнік | Усяго рабоч. / З іх ударнік. | Усяго рабоч. / З іх ударнік. | Усяго рабоч. / З іх ударнік. | Усяго раб. / З іх ударн. | Усяго раб. / З іх ударн. | Усяго раб. / З іх ударн. |

1) Колькі складае па саўгасу ўвесь 2% прэміяльны фонд..........................руб. (за 1931 год)

2) Усяго выдана ўдарнікам за ўвесь 1931 г. прэміяльнага фонду..........................руб.

3) Павялічылась колькасьць ударнікаў за 15 дзён на..........................чал., з іх жанчын..........................

4) Колькі праведзена за 15 дзён злетаў ударнікаў, брыгадах..........................вучастках..........................

5) Цэхах .........................., агульна саўгаскіх .........................., сярэдні процэнт прысутнічаўшых ..........................

6) Колькі выяўлена ілжэўдарнікаў..........................чал.

7) Нашто скардзяцца ўдарнікі..........................

..........................

*Подпіс старшыні рабачкому* ..........................

..........................месяца..........................дня 1931 г.

# ЗВОДКА ЗА 1-ую ДЭКАДУ ЖНІУНЯ М-ЦА 1931 г.

**аб ходзе ўзросту членаў саюзу па саўгасу**..................................................(назва саўгасу)

Абавязкова прысылаецца Рэсп- К-ту саюзу 3 разы ў м-ц: 1-га, 10-га і 30-га кожнага м-ца.

| Колькі маецца ў саўгасе рабочых усіх катэгорый. | | Усяго рабочых у саўгасе | У тым ліку | | | | Колькі маецца членаў саюзу з агульнай колькасьці ўсіх рабочых | У тым ліку лічыцца членаў саюзу | | | | Усяго прынята за дэкаду ў члены саюзу: | | | | | Адмоўлена за дэкаду ў прыёме ў члены саюзу: | | | | | Колькі ёсьць не разгледж. заяў па прыёму ў саюз | У тым ліку жанчын | УВАГА: Зьвесткі даюцца за ўвесь агульна-саўгаскі рабачком. Запаўняць ўсе графы. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Колькі штатных рабочых | Сэзонных рабочых | Будаўнічых рабочых | Падзённых рабочых | | Штатных | Сэзонных | Будаўнічых | Падзённых | Штатных | Сэзонных | Будаўнічых | Падзённых | З іх жанч. | Штатных | Сэзонных | Будаўнічых | Падзенных | У тым ліку жанчын | | | |
| муж. | жан. | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

1) Колькі чалавек за дэкаду выключылі з членаў саюзу.................................... з іх жанчын....................................

2) Якога чысла і масяцу апошні раз абгаварывалася пытаньне аб узросьце саюзу і чым тлумачыцца дрэнны рост членаў саюзу па Вашаму саўгасу..............................................................................

...................................................................................................................

...................................................................................................................

...................................................................................................................

*Подпіс старшыні рабачкому*..........................................

..........................................месяца..................дня 1931 г.

# ПРОФКАРТА

## Саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў СССР.

Саюз рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў аб"яднае рабочых і служачых, працуючых у саўгасах трэстаў:

1. Скатавода, Сьвінавода, Аўцэвода, Маслатрэста, Птушкатрэста, Малакагароднінатрэста, Укрмалакатрэста, Белсаўгастрэста, Рэспубліканскіх, абласных жывёлагадоўчых трэстах і жывёлагадоўчых саўгасах дапісанных да аддзельных арганізацый.

2. На дзяржконзаводах і іпадромах коневодства.

3. і кролікаводных, аленеводных зьвэраводных саўгасаў, запаведных пітомніках,дробных жывёл і птушак, прамысловага значэньня.

4. На гэнажных заводах, шалкаводных саўгасаў, пчалаводных саўгасах.

5. На адкормачных пунктах жывёлы, жывёлабазных, жывёлапрагонных, і каранцінных пунктах, а таксама прагончыкі і праваднікі жывёлы.

6. У падсобных прэдпрыемствах па перапрацоўцы жывёла—гадоўчых сельска- гаспадарчых прадуктаў, як та масла вырабныя сыраварныя, маслабойныя, сьпіртныя, уцілізацыйныя і інш. заводы, якія знаходзяцца на тэрыторыі саўгасаў.

7. На будаўнічых работах у жывёлагадоўчых саўгасах.

8. На селекцыйна—генетычных станцыях і на краевых занальных станцыях па жывёлагадоўлі.

9. У вэтэрынарна—лекавых і санітарна—прафеляктычных установах у саўгасах, вэтэрынарных інстытутах, вэтэрынарных тэхнікумах.

10. У вэтэрынарных ахова—карантынных і экспартна-імпартных пунктах, станцыях па барацьбе з шалёнствам, вэтэрынары горацкай сеці, конных і кароўных пляцовках, дызэнфекцыйных і прамывачных станцыях па агляду і кантролю малочных прадуктаў, калі гэтыя арганізацыі уваходзяць у сыстэму Наркамзему.

11. На фабрыках і лябараторыях па выбару біалегічных прылад і складах вэтэрынарнага забяспячэньня, а так сама у майстэрнях выpабляючых вэтэрынарныя прылады, апарату.

12. У апаратах жывёлагадоўчых трэстаў, вопытных станцый і вэтэрынарнага забяспячэньня.

13. У рэдакцыях ворганаў саюзнага друку.

14. У навукова дасьледчых інстытутах, знаходзячыхся падуласнымі гаспадарчым ворганам жывёлагадоўчых саўгасаў.

15. Вучашчыся ВУЗ—аў і тэхнікумаў, знаходзячыяся у веданьні гаспадарчых ворганаў жывёлагадоўчых саўгасаў.

Зацьверджана сакратарыятам Усе ЦСПС ад 8—VII—31 г.

Выдавецтва Бел. Рэсп. К-т Саюзу Рабочых Жывёлагадоўчых саўгасаў.

Адказны рэдактар Маслава.
Намесьнік Карпусенка.

Галоўлітбел № 2077. Заказ № 602—350 экз. Друк. Менспраўдому.

